

## *18 сакавіка 1927 г.*

— Ці знойдзецца дзе дзіця, якое-б ня любіла казак і апавяданьняў? Мы думаем, што не. У зімку ў цёплай хаці седзючы, ці ў летку сабраўшыся кружком на зялёнай сенажаці або ў цяньку дрэва, ўсе з вялікім зацікаўленьнем слухаюць, як казак да праўды непадобных, так і апавяданьняў аб сьвеці, птушках, зьвярох, зёлках і ўсім, ўсім што нас акружая, з чым мы ў жыцьці спатыкаемся.

Алеж найчасьцей гэтак бывае, што казкамі ды апавяданьнямі забаўляюць дзяцей маленькіх, такіх, што яшчэ чытаць ня умеюць, старшыя-ж мусяць самі сабе знайсьці ў кніжках і прачытаць аб тым, што іх больш цікавіць.

— Толькі ці гэта заўсёды, што цікавае пад рукой знойдзецца.

Часта німа скуль кніжкі ўзяць, то ізноў цяжкая, незразумелая, найбольш у чужой мове, адабье ахвоту да чытаньня і шмат пытаньняў, якіх заўсёды поўна ў дзіцячых галоўках астаецца бяз адказу.

— Трэба Вам дзеткі, прыяцеля, каторыб заўсёды меў гатовыя адказы на Вашыя пытаньні нёс Вам і разрывак і карысьць расказамі аб нашай Бацькаўшчыне і яе жыхарах: людзях, зьвярох, птушках, казюльках і расьлінах, а таксама аб ўсім сьвеці; каб нёс сьвятло Вашым галоўкам, а ў маладзенькія душы клаў скарбы каханьня ўсяго жывога, каханьня Бацькаўшчыны — Беларусі, каханьня Дабра і Праўды. За такога свайго прыяцяля прымеце наш месячнік „Заранку“.

Чытайце, карыстайце і забаўляйцеся... Алеж, каб „Заранка“ сталася сапраўды Вашым лепшым прыяцелям, трэба каб паміж ею і яе маладымі чытачамі завязаліся самыя цесныя зносіны; трэба. каб яна ведала, што каго найбольш цікавіць, аб чым хто думае, чаго жадае. А дзеля гэтага трэба, каб кожны чытач пісаў у рэдакцыю лісты шчыра пішучы ў іх аб ўсім, што яго цікавіць і даваў розныя пытаньня, на якія заўсёды дастане адказ у «Паштовай скрынцы» „Заранкі“.

---

# Заранка.

Яшчэ сьпіць уся Краіна
І туманаў палатніна
Над нізінамі вісіць,—

А высока, над зямлёю,
Кветкай яснай, агнявою,
Ужо Заранка зіхаціць.

Як лясных птушачак песьні
Спатыкаюць на прадвесьні
Маладзенькую вясну,—

Так Заранка ўсцяж, нязменна
Спатыкае дзень праменны,
Ледзьве збуджаны са сну.

І так сьветла, так вясёла
Разглядаецца наўкола
Праз хмурынак палатно.

Яна шлях гатуе сонку
І заспаную старонку
Будзіць, будзіць, як яно!

Хэлмна
7-га Марца 1927 г.

*Н. А.*

---

# Алесь Гарун.

12 сакавіка (па стараму стылю 27-га лютага) бягучага году, прайшло 40 гадоў з дня нарадзін вядомага беларускага паэта Алеся Гаруна. (Запраўднае яго прозвішча — Александар Прушынскі)—Нарадзіўся ён у Менску. Бацька яго быў чарнарабочым, зарабляў мала, дзеля чаго ўся даволі вялікая сямья жыла бедна. Маленькі Алесь з самых малых гадоў вызначаўся вялікімі здольнасьцямі: маючы пяць гадоў умеў ужо чытаць папольску і парасейску; у сем гадоў паступіў у 3-х гадовую гарадзкую школу, а ў дванаццаць ушколу рамесьленную дзе вывучыўся сталяркі.



Алесь Гарун.

Падчас ўсяе сваей навукі Алесь кожныя вакацыі выяжджаў на вёску да цёткі, дзе разам з другімі хлапцамі пасьвіў коні, ганяў авечкі і рабіў другія гаспадарскія работы, знаёмячысь адначасна з жыцьцём вёскі і з жыцьцём прыроды.

З 16-ці гадоў працаваў як сталяр у розных майстэрнях у Менску, а у вольны час шмат чытаў і гэтак папаўняў сваю веду і развіцьцё. Адначасна арганізаваў вучнёўскія гурткі, за што яго арыштавалі і пратрымаўшы нейкі час у вастрогах у Менску і у Вільні, саслалі ў Сыбір, дзе прабыў ён дзевяць гадоў. Вярнуўшыся ў Менск у 1917 годзе ён адразу ўзяўся за працу на карысьць Бацькаўшчыны-Беларусі. Аслабеўшае падчас сасланьня здароўе ня доўга пазволіла яму працаваць і цешыцца сваей воляй: ён памёр у 1920 годзе ў Кракаве.

Змалку ужо Алесь Гарун меў здольнасьці да пісаньня вершаў алеж спачатку пісаў парасейску, бо

з беларускім друкаваным словам першы раз спаткаўся маючы ужо 17-ць гадоў і тады пачаў пісаць вершы пабеларуску, якія змяшчаліся у тагачаснай беларускай газэці «Наша Ніва».

Найбольш пекных вершаў напісаў Алесь Гарун за час свайго сасланьня. Усе гэтыя вершы сабраныя ў адзін зборнік, выдрукаваны пад загалоўкам «Матчын Дар» які паэт пасьвяціў сваей матцы. Пісаў ён таксама і апавяданьні, а у апошнія часы свайго жыцьця напісаў некалькі сцэнічных твораў для дзіцячага тэатру, як напрыклад: «Шчасьлівы Чырвонец» і другія.

Ен першы падумаў аб беларускіх дзетках, за што тым больш дзеці павінны аб Ім памятаць і браць прыклад з яго працавітасьці і шчырага, глыбокага каханьня Бацькаўшчыны.



## Добрыя дзеці.

Паставілі дзеці сіло. Вераб'я
Хацелі злавіць на пацеху.
Злавілі сінічку, крычаць: вой-я-я!
А радасьці колькі, а сьмеху!
Імчацца да маткі: — „Сінічка, глядзі"!
— „А дзе-ж вы ўзялі?" — Злавілі,
Дастань ты ёй клетку, хучей пасадзі"...
— „Нідобра вы, дзеткі, зрабілі"!

„Мы будзем яе і паіць і карміць,
Сьпевала-б нам птушка прыгожа"...
— „Ах, дзеткі! ў няволі яна замаўчыць,
Сьпеваць у няволі не можа..,
Успомніце толькі, як нудна сядзець,
Як з хаты мароз ні пушчае.
Тож дзень, вам здаецца, як тыдзень ідзець,
Хоць я і ўсяк разважаю.

А птушку вы хочаце з хаткі яе
Узяць, пасадзіць у чужую...
Не мучце, пусьціце, рыбулькімае,
На волю яе залатую".

І матчыны словы ў сэрцах дзяцей
Ласкавыя струны кранулі,
І добрыя дзеці — прыклад для людзей!
Сініцы свабоду вярнулі.

*Алесь Гарун.*

---

М. АНТАНОЎСКІ.

# Апавяданьні цёткі пары.

(З расейскага пераклаў А. Б.).

Вось, брыда гэты дым! — усклікнула Алеся, пакладаючы лучыну пад дровы — як есць вочы, праціўный, і сьмярдзіць.

Алеся — старшая ўсям'і; у яе шмат меншых братоў і сястрычак і, калі мама занятая, Алеся ей памагае варыць вячэру.

Стараючыся адвярнуцца ад гаркога дыму, Алеся паставіла ў печ імбрычак з вадой.

— Сама ты брыдкая! — пачулася злоснае бурчэньне з печы, — лаеш старога дзядзьку Дыма! Шак я родны брат Агню, а агонь шмат карысьці прыносіць людзям.

Алеся зьдзівілася і спужалася.

— Што гэта, што там! — крыкнула дзяўчына,— хто там бурчыць?

— Бурчыць! ды зусім ня бурчыць, — што за выражэньне? З табой гаворыць брат твайго добрадзейцы Агню — дзядзька Дым.

Алеся трусіхай ня была; прышоўшы да сяба ад першага зьдзіўленьня, яна сказала:

— Агонь і Дым — вялікая розьніца: Агонь, разумеецца, мой добрадзейца, а Дым...

— Дым проста шкадлівы хвалька, клёк, клёк — пачулася ў адказ вясёлае клекатаньне з пастаўленага ў печь імбрычка і яго накрыўка з шумам сарвалася з места: здавалася, імбрычак зьняў шапку — клёк-клёк: Добры дзень! цягнуў вясёлы голас, — Добры Дзень, дзяўчынка! Я даўна хацела з табой пазнаёміцца. Я цётка Пара.

— Баўтуніха і латруга! — забурчэў Дым.

— Ого! ну, гэта ты ужо, брат, дарма: лепшай працаўніцы за мяне ты і ў сьвеце ня найдзеш — весела гаварыла Пара, — клёк-клёк! Я працую як дзень так ноч і люблю такіх пільных працаўніц, як Алеська.

— Хацеў-бы я ведаць, шго ты робіш?

— Я? Клёк-клёк! Я, як і мой брат Агонь ні аднае мінуткі не сядзім без працы, мы асьветляем і атапляем людзкія памешканьні, мы гонім цягнікі і параходы, мы круцім калёса паравых млыноў... ды што! ўсяго намі зробленага і не пералічыць, — клёк-клёк! А вот ты, чым займаешся? Хоць ты мне і родны брат, а ведаешь, гаворачы па праўдзе, завалень — дык гата ты!

Дым разлаваўся.

— Дурны-ж я, што тут з вамі талкую! Вельмі мне трэба сядзець у цёмным пакоі, калі я магу выляцець на двор і пырхнуць да сіняга неба!

— І сапсаваць паветра, — сьмяючыся, у дагонку крыкнула Пара, — не вялікая заслуга!

— Даражэнькая цётачка Пара! — прагаварыла Алеся — мне і ў галаву ня прыходзіла, што вы з Агнём так шмат працуеце. Гэта вельмі цікава! Раскажы мне што колечы.

— Мілая дзетачка, я ахвотна табе раскажу шмат, шмат аб сабе і сваіх братох. Нас шмат; два браты: Агонь і Дым і тры сястры: Сьвятло, Пара і Цяплыня і толькі адзін Дым баўтаецца па сьвеце бяз толку!

Аб рэшце ёсць што гаварыць. Але я ўжо выпараюся, я адхаджу — да заўтра, мілая дзетачка, да пабачэньня!

## II. Аб агнявым царстве.

Клёк-клёк! — заклекатала на заўтра перад вячэрай з гарачага імбрычка вясёлая Пара, — клёк-клёк! Ага, ды мяне, здаецца, ждуць! — крыкнула — Пара зьнімаючы шапку, г. зн. накрыўку імбрычка.

Каля печкі ўжо сядзелі Алеся і яе малодшы брат, Янка, катораму яна ўчора апавядала аб вясёлай цётцы-Пары.

А як-жа, як-жа цётка-Пара! — ускрыкнуў шустры Янка: — шак кожны дзень нам ты абяцала па аднаму апавяданьню.

— Ці-ж кожны дзень па апавяданьню?

Ну, добра, ўжо добра, — пачнем, бо я ў вас гашчу нядоўга, жыва расплывуся па паветры... Я вам разскажу аб тым, каго больш за ўсё люблю на сьвеце: я вам раскажу аб магутным, дужым, добрым цару-Агню.

Уладаньні яго вялікія і шмат ён мае падданых, але яго запраўднае царства ляжыць далёка, далёка пад зямлёй, хоць не за гарамі, як гаворыцца ў вашых казках; не, ляжыць яно глыбака пад зямлёй, вельмі глыбака! Чым глыбей капаць зямлю — тым цяплей і цяплей і, урешце так горача, што ні адзін з вас, людзей, ня мог-бы пабыць і сэкунды ў царстве Агню... У царстве агню вада вечна кіпіць, а золата і серабро, якое вы бачыце сьцюдзёным і цьвёрдым, ліюцца, як вада, цурком.

Цесна цару-Агню пад зямлёй! І хочецца яму на сьвет і волю. Як у клетцы б'ецца дзікі зьвер, так цар-Агонь б'ецца ў сваім цесным падзямельным сьвеце: не, не, ды пад зямлёй пойдзе такая трэскатня, што жах ахоплівае ўсіх жывучых на зямлі. Гэта б'ецца цар-Агонь аб сьцены свайго палацу і зямля калышыцца-дрыжыць, і часта вялізарныя дамы разваліваюцца, як забавачныя будынкі з картак. Разгуляецца цар-Агонь, — і зямля трэсьне. або яе высуне ў гару аграмаднай гарой.

Разінуўшы губку (раток), слухаў Янка дзіўнае апавяданьне цёткі-Пары.

— Вельмі дзіўная казка! — усклікнуў хлапец.

— Гэта, брат, праўда, а не казка, клёк-клёк! — весела сьмеялася Пара: — у цьвятучаў Італіі ёсць гара — Везувій, аграмадная гара: гэта цар-Агонь разлаваўшыся адзін раз стукнуў кулаком у сляпеньне аднэй сваей падзямельнай залі і высунуў яе гарбом у гару; і да этага часу з яе бухае дым і паламё, а людзі завуць Везувій агнедышычай гарой — вульканам.

Быў час, калі з Везувія рэкамі прарвалася лява — г. зн. мешаніна растопленых жыжакі: серебра, медзі, золата, серы і шмят інных матэр'яў і заліла ўсё, што спаткала на сваей дарозе: месты, сады, вёскі. Пасьля гэтыя рэкі застылі і пахавалі цэлы край пад сабой.

А то раптам разгуляецца цар-Агонь у другім канцы свайго царства, дзе колечы пад сінім морам: раптам закіпіць вада, бухне густы дым і зьявіцца сярод мора аграмадны кусок зямлі, выкінены са дна грозным царом; бухае агонь, ляціць каменьне, а зямля шпарка расьце ў шырку і ў вышку і творыць востраў.

Вось якія штукі выкідывае мой магутны брат! Між ішым, ён цяпер крыху прыціх. Хіба што свабадней яму стала жыць на сьвеце.

— Аднак, да пабачаньня, я змарылася... мне ўжо пара, да пабачаньня!

— Да заутра, дараженькая цётка Пара, да заўтра!

— Так, так, так! Забулькала выпарываючая цётка-апавядальніца.

(Працяг будзе).

# Загадка.

*Чорны сабака ня брэша, ня кусае, а да хаты не пускае.*

# Вясна ідзе.

Сьнег яшчэ не зыйшоў з палёў, рэчкі лёдам пакрытыя, шэра і сьцюдзена ў нашай старонцы, а мілыя птушкі, сьпяшаюцца ужо з далёкага выраю да сваіх родных гнёздаў і нясуць з сабой радасную вестку: „Вясна ідзе“.

Насамперад прылятаюць найбольш вытрывалыя і умеючыя найлепш даць сабе раду ў цяжкія мінуты раньняй вясны. Прылятаюць яны не вялікімі стадамі, а маленькімі грамадкамі або нат паасобку, быццам пасланцы якія маюць даведацца ці скончылася ужо у нас зіма?

— Пасланцы гэныя ўжо не варочаюцца ў варай з добрай ці благой весткай, а ў нас астаюцца часьценька налажыўшы галавой за сваю адвагу...



— Першымі, бо ўжо ў канцы лютага, а ў познюю вясну у першай палові сакавіка, варочаюцца да нас наймілейшыя для хлебароба, — жаўранкі.

— Жаўранак сьцюжы не баіцца, а пракарміцца яму не цяжка, бо хаця галоўнай яго ежай у летку зьдўляюцца рабакі і розныя казюлькі, аднакаж вясной не пагарджае зярнятамі якія яму удаецца знайсьці.

Менш, больш, адначасна з жаўранкам мы можам спаткаць вярнуўшагася шпака які таксама побач з казюлькамі есьць уселякае насеньне.

З лесавых птушак найраней прылятае дзікі голуб. У канцы лютага, або ў першай палові сакавіка ў кожным лесі чутно яго сільны голас „гу-у, гу-у, гу-у“.



У сакавіку, часта аж ў канцы яго прылятаюць кнігі (кнігаўкі), а таксама зьяўляюцца першыя стады дзікіх качак, дзікіх гусак і лебядзяй, якія ў нас не затрымоўваюцца, а ляцяць далей на поўнач.

У канцы сакавіка і ў красавіку, калі робіцца ўсё цяплей і цяплей сьнег гіне заўсім, а з нагрэтай ральлі і з пад згніўшай травы і лісьцяў пачынаюць вылазіць уселякія рабачкі і казюлькі, пачынаецца самая вялікая цяга птушак.



Зьяўляюцца; зяблікі, пліскі, дразды, жоравы, буслы, ластаўкі.

У траўні варочаюцца: перапёлкі, зязюлькі і солавейкі.

У траўні месяцы веснавая цяга птушак кончыцца.

Прыляцелі яны, каб зьвіць сабе гнёзды і выгадаваць птушанят, а як прыйдзе халодная, сумная, восень яны ізноў збяруцца ў грамадкі і пацягнуць ў цёплы вырай.

*З. Верас.*

---

# Загадкі.

*Пад адным капялюшом чатыры браты.*

---

*Маленькае, кругленькае калом не падважыш.*



# З выраю.

Лятуць да нас, лятуць яны
з далёкай, цёплай стараны,
нясецца крык іх над зямлёй,
бо бачуць ўжо край родны свой.

Прывет з далёкай стараны
нам радасна нясуць яны
і ў крыку тым, здаецца мне,
аб цёплай кажуць старане.

Не страшыць сьцюжай там зіма.
ні злых марозаў там німа,
а краскі вечна там растуць
у гаях птушачкі пяюць;

Густой апрануты ліствой,
штось шэпчуць дрэўцы між сабой
у іх цяні руччы бягуць
і птушкі райскія жывуць,
што хвост спусьціўшы над зямлёй
гарaць як краскі між ліствой.

«Скажыцеж, птушачкі, вы мне,
штож не былі ў той стране?
З краю, што завецца земскі рай
вы ляціцё ў наш сумны край».
Здалёк ледзь чутна крык ляціць:
«Хоць добра ў краю у тым жыць,
хоць век пануе там вясна,
мілей нам родна старана:
тут маткі гнёзды нам вілі,
сярод лясоў тых мы жылі,
тут гадавалі нас яны
сюды ляцім мы што вясны».

*К. Буйло.*

# Як мы з дзедам жылі, а бацькі яшчэ на сьвеце ня было.

(Народная казка).

Мелі мы паўвалокі зямлі, новаю хату, шэрага казла і сучку рудую.

Дзед займаўся гаспадаркай, а я служыў лясьнікам у пана Шышкі.

Неяк каля Юра прыходжу дамоў і бачу за сталом сідзяць чужыя людзі; каза ходзіць па прыпечку, траўку скубе, а сучка пад палом памыі хлеба. Я за стол,—ня пускаюць.

— Што гэта значыць—пытаюся ў дзеда.

— Аддаў зямлю ў арэнду, сабе аставіў печ і падпечак, пол і пад палом — адказвае дзед.

Плюнуўшы на дзедавы парадкі, пашоў швэндацца па панскім лесе, але ў лесе не зьвякуеш, мусіў вяртацца дамоў.

Адчыняю дзьверы аж... дзед запрог казу і сучку у саху і думае печ араць, ды як запрог?! Сучку на перадзе, казу з заду і нукае ды тбрукае! Каза сучкі баіцца, а сучка адна не пацягне — арнта ня йдзе.

Узяўся я. Запрог казу наперад, сучку з заду, павесіў казе кусок хлеба на рог і не пасьпеў узяцца за рагач, як сучка, пабачыўшы хлеб, калі рване! каза наўцекі і так узьвярнулі печ аж ральля блішчыць.

Засеялі печ пшаніцай. Пшаніца ўрадзіла, як ніколі, зьвярнула як кажух. Высьпела, зжалі і злажылі на стаўбе каля печы сушыць.

Алеж трэба бяды. Сястра (трэба прызнацца, што ў мяне была сястра, Аўдоля) мыла бялізну і паставіла каля стаўба цэбар з залой, а дзед варочаючыся па печы, зачапіў кладню і абярнуў у цэбар.

Пагода пад той час ня служыла, ня было дзе сушыць і пшаніца парасла.

А каб дабрнцо не змарнавалася наварылі піва. Піва зьлілі ў бачэнак, уставілі ў дзірку выкручаную сьвердлам у сьцяне і хай мацпуецца.

На той час прыехалі сваты да Аўдолі. Тая ўпёрлася: пайду, ды пайду і мусілі справіць вясельле.

Вясельле было гучнае: хто ня быў, дык ня піў, хто ня прышоў, дык так пашоў.

Аддаўшы сястру трэба самому жаніцца, а тут мяса зьелі, піва выпілі і рабі што хочаш.

У суседа купіў парсюка, прышоў дамоў, заву ў хату — праз парог не пералезе. Прышлося высячы дзірку пад парогам і ўпускаць і выпускаць.

Завёў піва, здаецца, як трэба. Стаіць тыдзень, другі, трэцьці — ня ходзіць.

Папраўляючы печ, нашоў пад печчу прадзедавы нагавіцы і бух! у дзяжу з півам.

Як пашло маё піва хадзіць! На двор, за вёску, далей і далей. Я за ім! Павыбегалі суседзі, глядзяць як на дзіва. Нарэшце, уцяміўшы ў чым справа, кінуліся мне памагаць і такі злавілі. Хутчэй зьліў у бочку, уставіў у тую самую дзірку ды гваздом забіў. — Цяпер не ўцячэш!

Не пасьпеў адсапнуцца аж дзед крычыць: Юзук, парсюк прапаў!

Кінуўся шукаць, суседзі памагаць, няма, ўсю вёску перакалацілі — няма!

З нячывелі хапаюся за сёе за тоё і ў рэшце зхапіўся за памяло, падымаю, аж мой парсюк, шэльма, сядзіць над памялом! Як схаплю на рукі, яд падніму, як бразну вобзямлю, дык толькі ножкамі, бедненькі, задрыгаў.

Каб адудзячыцца суседзям за іх дабрату, урадзілі ўсіх паклікаць на вясельле. Пашоў я прасіць. Каму падышоў пад вакно, каму не, усе прышлі. Сабралася поўна хата і повен двор.

А я ўзяў бочку пад паху, палоньнік новы альховы ў рукі і пашоў частаваць.

Паднясу піва пад нос, палоньнікам у лоб, ляжыць як сноп!

Так усіх спаіў, ляжаць аж мяне сьмех бярэ.

І дзякавалі мне суседзі за трактамант, дзякавалі: амаль што чуба не абдзякавалі.

Зямля вышла з арэнды, а насеўку ані ў зуб. Жон-

ка вазьмі ды за рызьзё купі гарбузоў і ўсю паўвалочку засадзілі. Але-ж урадзілі! Найменшы з кацёл, што сьвіньням бульбу варацьь, а то і з кадзь, і з цэбар.

Каб гарбузы не пагнілі, мы здумалі іх у аўзарэдзіць.

Жонка падае, а я чапляю сабе гэтыя гарбузы ды разглядаюся, а тут як вырвецца гарбуз у яне з рук... Я крычу: Рачыся сьцеражыся! А яна думала што лажыся і лягла, а гарбуз па плячах і забіў.

Зьлез, гэта я, стаю... аж дзец бяжыць, крычыць: Юзук, Юзук, бяжы дамоў, твой бацька нарадзіўся!

---

# Малы Алесь.

Неяк жартам Юрка Лысы
У Алеся стаў пытаці:
Эй, ты, слухай белабрысы,
Як, скажы мне, цябе зваці?

Алесь зараз адгукнуўся:
Ціж яшчэ ня знаеш, дзядзька,
Дык таксамаж я завуся,
Як і мой завецца бацька.

А як бацька, зноў спытаўся.
(Ўсё па свойму Юрка хлусе).
Алесь горда адазваўся:
Бацька-ж так, як я завуся.

Ну, а як цябе абедаць
Да стала вось зазываюць?
Мне хацеласябы ведаць.
Ці цябе мо забываюць?

Ну, тут мушу я сказаці,
Што на просьбу ня чакаю,
Дык за стол ня трэба зваці,
Бо я перш за ўсіх бываю...

*Ст. Станкевіч.*

---

# Забаукі уласнай работы.

Любіце забаўкі, праўда? А ціж не наймілейшыя такія, што кожнае з вас само сабе зрабіла? — Папсуецца такая цацка, ну штож... шкода, але ўсёж калі не паправіць, то новую зрабіць можна. І прыемна і кошт не вялікі, бо матэрыял на такія цацкі не дарагі: вокладкі ад старых сшыткоў, старыя тэктуровыя скрыначкі, скрынкі ад сярнічкаў, шпулькі ад нітак, крыху клею з мукі, голка, часам шпілька ці кусочак паленца. Вось і ўсё. — Не адзін скажа: „а добра былоб, ды я нічога не ўмею зрабіць“. Вось дзеля гэтага ў кожным нумары „Заранкі“ даьмо ўзор якой небудзь цацкі. Спачатку лёгкі, пасьля ўсё труднейшыя ды пякнейшыя. Маючы ахвоту і крыху цярплівасьці, кожны зможа ня толькі сабе цацку зрабіць, алеж і маленькаму брату ці сястронцы гасьцінец прыгатаваць, а нават маме ці татаві падараваць якуюсь драбніцу зробляную сваімі рукамі.

Фіг. 1.



Фіг. 2.





Фіг. 3.

**Млынок.** Вазьмеце квадрат паперы, найлепш з вокладкі зшытка, назначце сярэдзіну і кожны рог разрэжце на двое не даводзечы разрэзу на адзін палец да сярэдзіны. (Рыс. I) —будзем мець 8 кутоў. (Рыс. II).

Цяпер бярэм рагі праз адзін, г. значыць, бярэм першы, другі пакідаем, бярэм трэці, чацьвёрты пакідаем і так ўсе, прымацоўваючы іх кончыкі да сярэдзіны квадрата шпількаю або тоняанькім цьвячком. Тады ўстрэмляем шпільку ці цьвячок ў канец тонкага прутка і цацка гатовая. (Рыс. III). Калі на яе пазьмухаеце, або яшчэ ляпей хутка з ёй палеціце, будзе круціцца як млыновыя скрыдлы.

## КРУЦІГАЛОУКА КВАДРАТНАЯ.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | А. |
| | 2 | | | | | Б. |
| | | 3 | | | | В. |
| | | | 4 | | | Г. |
| | | | | 5 | | Д. |
| | | | | | 6 | Ж. |

У шасьці радках, азначаных літерамі А, Б, В, Г, Д, Ж, напісаць на адным шасьцігучным слове.

З літэраў стаячых у кратках азначаных цыфрамі 1, 2, 3, 4, 5, 6, зложыцца назоў птушкі.

**Словы злажыць з наступных складоў**: Ка-ро-зрэн-за-му-бя-жа-зы-сьцю-ка-ня-ту-ма-го-ля-па.

**Значеньне слоў:** 1) Частка вока, 2) Дрэва, 3) Той хто іграе, 4) Інакш холад, 5) Інакш маці, 6) Гэрб Беларусі.

## КРУЦІГАЛОУКА СА СКЛАДОУ.

З пададзяных ніжэй складоў злажыць 10 слоў, якіх пачатковыя літары чытаныя з гары ў ніз дадуць псэўданім (выдуманае імя і прозвішча) вядомага беларускага паэта.

**Склады:** пень-ка-сў-ры-вей-гусь-лі-тон-са-ві-аф-ка-ца-нец-ла-ру-улю-ка-бе-нё-та-ман-ан.

**Значэньне слоў:** 1) Часьць сьвету, 2) назоў месяца, 3) жаночае імя, 4) назоў птушкі, 5) мягкая літара, 6) чарвячок матыля, 7) мужчынскае імя, 8) гародняя кветка, 9) той каго любяць, 10) рака ў заходняй Беларусі.

Редактар Выдавец **Л. Войцікава.** Друк. ім. Фр. Скарыны.